Poczta opłacona ryczałtem.

Адзін № каштуе 35 гр.

№ 10 Серада 15-га Ліпня 1925 г. Год II

# АВАДЗЕНЬ

ДВАТЫДНЁВІК САТЫРЫ, ЖАРТАЎ І СЬМЕХУ.



Што гэта за муры?

-А тут калісь жыў Кейстут, князь літоўска-беларускі.

-Гэта вельмі цікава, што даўней будавалі без сталяваньня гэткія будынкі: мусі ён у благую пагоду наймаў сабе другую кватэру?..

## Маляваная лаўка.

1. Першы раз Шпаку ўдалося
„Авадня" неяк дастаць,
Лаўку-ж напаткаць прышлося
І прысеў каб пачытаць.

2. І так пільна зачытаўся.
З „Авадня" ён не зьміргаў
У хварбу сьвежую скачаўся
Ды і сам аб тым ня знаў.

3. Аж тут раптам кум нарваўся
З якім бачыўся даўно,
Хоць ня рад быў, што спаткаўся,
Ды што зробіш?-усё адно!

4. З лаўкі мусіў прыпадняцца
Тут да кума ён свайго,
Пачаў з кумам цалавацца-
Пэцкаў хварбаю таго.

5. Але скора разышліся,
Скоса сталі пазіраць;
Скуль так змазаны ўзяліся
Не маглі яны згадаць.

Рысункі Гармановіча, словы С.Ст.

oooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooo

### Ня вораг.

-Што-ж ты ня пусьціў Л. пераначаваць? А лічышся й прыяцель.

-Ды й ня вораг! Ведаеш, ён як прыедзе ў горад, дык усё прап'е, тольк[і] пакіне, каб было за што дамоў вярнуцца. Цяпер менш п'е, бо астаўляе на начлег у готэлі.

Дык-дзеля.

### Старанна частавала...

-Ці гэта ты, Мацьвей, пасварыўся з Сымонавымі, што не заходзіш да іх?

-Не, не сварыўся, але раз Сымоніха вельмі старанна мяне частавала, дык я уцёк...

Дык-дзеля.

Госьць-даўжнік: -Далажыце аба мне пану...Можа даць паненцы маю візітную картку?

Служанка: - -Лепей грошы...бо пан даўно іх чакае!

-А гэта праўда,штό пажар папаліў шмат адзежы?..

-Пан бядуе толькі па нейкіх вэксалёх...

-Вэксалі ўсе папалены?!

-Усе папалены...

-Вельмі дзякуй!!.Бывайце здаровы...

oooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooo

Даўнейшая газэта...

Старому Міхалку папалася ў рукі газэціна.Ён яе чытаў,чытаў,аж пакуль вычытаў штось нядобрае,бо выбег на вуліцу з газэцінай ды и крычыць зусім зьмяніўшыся ў твары

-Ці чулі?Гэта-ж вайна!..

-Дзе вайна?

-Як дзе!.У нас/Мобілізацыю ўжо робяць,у газэце напісана,-крычаў Міхалка.

-Га-га-га-а-а-ах!!!-зараўлі жонкі:-гэта-ж майго сыночка забаруць...гэта-ж майго Пракопку забяруць...гэта-ж майго Сьцяпана забяруць...

Пачуў пра гэта Максім,прыбег, хапіў з заміраўшым сэрцам з рук Міхалкавых газэту,паглядзеў ды й пакаціўся на зямлю ,трымаючыся за живот.

-Ха-ха-ха!Ха-ха-ха!-толькі можна было пачуць ,-гэта-ж старая газэта,пра Японскую вайну напісана яшчэ...

-А чорт яго ведае,-каха стары Міхалка,узрадаваўшыся сваей абмылцы,-гэта-ж хлапец ад бацюшкі прынес... Мужык.




...Ці надоўга?..

oooooooooooooooooooooooooooooooooo

## У ВАГОНЕ.

Да вагона ўвайшоў нейкі чалавек . Там сядзеў пан. Чалавек закінуў свой клунак |багаж| на паліцу,але пан,якому прыходзілася над клункам сядзець,занепакоіўся ды й кажа:

-Пане!Панскі багаж спадне мі на гловэн.

-Гэта нічога страшнага,бо ў ім няма нічога такога,каб пабілася,адно-косы ды сярпы...

М.Гарман.

---

## Пасьля пажару.

-Дзядзька.Ваша хата згарэла.а вы й не бядуеце!

-Чакаю страхоўку:думаю лепшую пабудаваць.

---

## Важная прычына...

-Чаму цябе выгналі с памешканьня?

-Бо не захацеў ажаніцца на гаспадарскай дачцы.

Дык-Дзеля.

## Яшчэ крыху...

-Гэй,малец!не рабі сораму дзеўкам,чаго ты ідзеш за імі?

-Вось я яшчэ крыху нюхну пархумы...

---

## Цялушка.

Гаўрыла прыехаў з войска дамоў.Першы спаткаў сына бацька ды й крычыць яму:

-Гаўрылка!бяжы паглядзі,якая цялушка выгадавалася!

---

## Хмара-не карова.

-Дзядзька Якуб!што-ж вы не грабеце сена,гэта-ж хмара находзіць.

-Хмара-не карова,сена ня зьесьць.

Дык-Дзеля.

---

Беларускі педагог гр.Кр.
|с каллекцыі фр.Ал.|



Як зрабіць.

Сям'я толькі села за стол палуднаваць, аж прыходзіць чалавек с тэлеграмаю: «цетка памёрла»
Малы Павэлак даведаўся аб гэтай навіне ды пытаецца:
-Мама! ці цяпер адразу ўжо будзем плакаць, ці пасьля, як папалуднуем.

---

Па вясельлі.

Жонка: -Каб на маé грошы-не сядзеў-бы ты каля мяне, лнка!
Муж: -Гм...і ты не сядзела-б цяпер пры мне, каб не твае грошы.
М.Гармановіч.

---

У крамніка.

Страхавы агент:
-Я вам раджу застрахаваць сваю краму. На прыпадак няшчасьця можаце атрымаць адразу 20.000 зл.
Крамнік:
-Гэта вельмі добра! Тады выдайце мне, калі ласка, аванс [наперад] тысячаў пяток.
С.Ст.

---

Дармовая дача...

-Вы куды сёлета едзеце на дачу?
-Яшчэ ня ведаю. Шукаю недарагой, мо' параіце?
-Чаму-ж не...на'т дармовая будзе.
-Дзе-ж гэта, дзе? кажыце.
-А тут недалёка, на Лукішках.
-?!..
С.Ст.

шшшшшшшшшшшшшшшшшшшшшшшшшшшшшшшшшш

оооо

-Ты кажаш што прайграў 200зл. і у выйгрышы?
-Але...толькі не кажы нікому... Я сьцягнуў добрае пальто з грашмі на 800 зл. у аднаго з ігракоў.

оооо

-Колькі, панічка, вам заплаціць?
-Роўна 83½гр.

-Чаго ты гэтак углядаешся ў ваду?
-Тут ёсьць ракі, дык я прыслухаюся, ці ня сьвісьне каторы з іх.
-Ну, калі сьвісьне, дык што?
-Тады я паверу, што на сьвеце будзе лад, ня будзе сваркі і разбояў, ды усё вельмі патанее...
М.Гарм.

ооооооооооооооооооооооооооооо

У Вільні.

Першы: -Каб я мог, дык гэтага дзеяча ў лыжцы вады ўтапіў-бы.
Другі: -За што гэтак?
Першы: -Ненавіджу яго!...я...я не супакоюся, пакуль...яго...Ах, валерыянкі дайце!..валерыянкі!
Філёзоф уздыхнуўшы: -Бедны той, хто або занадта каго любіць, або занадта ненавідзіць...

ооооо

Першы: -Што для нас, крывічоў па твойму, важней? ці праца культурна-прасьветная ці палітыка?
Другі: -Здаецца культурная...
Першы: -Дык чаму-ж тады ўсе сілы кладуцца на палітыку?
Свой.

Як забраць дзіця назад.
Гэта і ня шкодзіць-
Хай другіх дзяўчат яна
Да грэху ня ўводзіць.
Хай свавольніца Каляд
У тыдзень пяць ня робіць,
А пілнуецца адных-
Шмат болей заробіць.
А Марусячка Каляд
У тыдзень пяць рабіла,
Была ў Тофіля, ў мяне
Й Рыські не забыла...
І упёрлася аж там,
Каля Маладзечна.
Дзе казалі, што служыла
Надта ўжо сэрдэчна.
Але ўбачыў гаспадар,
што буцян прыбудзе
Разьлічыў Марусю ўраз
Да другіх хай блудзе.
Угадаў-жа гаспадар:
Прыляцеў наш бусяг-
І матулячкай ураз
Робіцца Маруся.

І тады яна дзіця
Хлопцам падкідае
Ды каторому із іх?
Вось аб чым гадае.
Бо занадта шмат было,
Як цяпер пазнаеш?
Багацейшаму, ці што?-
Паніч Тофіль маеш!
Дзяцём трэба так цярпець!?
Эх вы маткі, маткі!
Не чураецца нідзе
Дзікі зьвер дзіцяткі.
І зязюлячка, як вы,
Дзетак не гадуе,
Дык за тое ўсю вясну
Летае, бядуе...
І гукае на ўвесь сьвет:
Ку-ку! Накажыся!
Я, матулячка твая!
Прыляці! Прыжміся!
А як вы, дык ні гу-гу!?
Ну вас у балота!
Пра такіх матак пісаць
Німа нат ахвоты.
Несьвятовы.

oooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooo

Справядлівы каханак.

Блох мае жонку Хайку, яна мае сабе каханка Шмуйлу.
Аднаго разу кажа Хайка каханку свайму:
-Шмуйла! Блох сягоньня паедзе з гадз. восьмай вечара ў далёкую дарогу. Ты будзь пры доме... У палове дзевятай кіну табе праз вакно 2 грошы-гэта будзе знак, што мужа (Блоха) няма дома і ты да мяне можаш увайсьці.
Блох паехаў. Хайка праз паўгадзіны адчыніла вакно і выкінула на вуліцу 2 грошы. Прашло 10 мін. і 15...німа ...і паўгадзіны. а Шмуйла ня прыходзіць.
Праз гадзіну ён звоніць у дзьверы.
-Ці ты ня чуў, як я выкінула 2 грошы,-з гадзіну таму?..
-Чуў, чаму не!
-Дык чаму-ж ты спазьніўся?
-Чаму? Бо ня мог знайсьці тыя два грошы.
Падаў Гарманові.

-------------



ХАЙКА. -Заўтра мае ўрадзіны, скончу 25 гадкоў.

БЭРКА. -Колькі? 25 гадкоў? Хіба на адзін бок столькі!??
Гармановіч.

Авадня чытай сам і давай другому.

Прысылай падпіску.

# Марс нашкодзіў.

Шмат гадкоў я ўжо пражыў
Тут на белым сьвеце,
Але штук такіх ня чуў,
Як у гэтым леце.
Яно-ж толькі пачалось-
Што-ж канец пакажа?
Гэта ўжо ніхто другі,-
Як буцян нам скажа.
А што ўжо ёсьць дык і я
Расказаць бяруся,
Каб хаця вось не салгаць,
Надта ўжо баюся.
У студні месяцы у нас
Здарылась навіна:
З мужчын трое прывялі,
Хто дачку, хто сына.
Ай-я-я! Не йначы ўжо
Марс мужчынам шкодзіць:
Ён спускаўся да Зямлі
І цяпер прыводзіць.
Мо' й ня шкодзіць гэта так,
Што яны радзілі-
Дзяцюкамі-жа чаму,
Доўга так хадзілі!

А дзяўчыначка -чакай,
Ды й чаго чакаці,
Як ня хоча іх ніхто
І у пост пытаці!
І давай тады гуляць,
Дзе і як папала...
Дзе за буську, шакалад,
За гарэлку, сала:..
Любіць яна ўсіх цяпер:
Юзю, Іцку, Мусту...
І стары і малады-
Усе ей па густу.
Ночай дома не спачне
Няма усё часу,
А як прыдзе-па жбанох
Нюхае ўсё квасу.
Бацька й матка не жывы,
Што дзяўчынка блудзе,
Бо ўжо гвалту на ўвесь дзень
Ды й якога будзе!
А як служа-гаспадар
Вучыць не бярыся...
"Мая ночка, а твой дзень"
"Скажа ўраз Марыся.
Так гулялі трое ў нас
Ды ўжо й нагулялі:
Праз абмылку вось, ці што,
Знашлося па лялі.
Што-ж рабіць? тады ніхто
У хату не пускае...
Э, ды, матачка і тут
Зёлак многа знае.
Выбірае дзяцюка,
Каб ён быў багаты,
І прыходзіць да яго
Ціханька да хаты.
Ё тваей ласкі, шчыры мой,
Гэтае дзіцятка,-
Дык бяры, вось, і гадуй,
Будзь яму, як матка.
А сама бягом на двор
З радасьці аж скача,
Што дзяўчыначкай ізноў,
Што дзіця не плача.
Гэтак Юзю прынясла
Мальвінка-лэзпку,
А той любіць яго так,
Як якую кветку.
Паглядзіце на дзіця
Ці то днем, ці ночкай,-
Белая, як той сьняжок,
Надзета сарочка.
Ён накормлены, памыт
Так яго кахае,
Што і родная матулька
Так дзіця ня хае.

Гэтак сама Юзюку,
Што жыве у Бродзі,
Дык Аленка прынясла
Па тэй самай модзе;
А Маруся прынясла
Тофілю дзяўчыну...
Яго дома ня было,
Дык яна у пярыну.
Палажыла, а сама
Кулем вон із хаты...
А мо' й добра будзе так:
Ён паніч багаты.
Як пазнаў аб тым паніч,
Крык падняў вялікі...
Плача Анелька адна-
Голас нейкі дзікі.
А паніч ні на парог
Дзень, другі і трэці...
На астатку ўсё-ж такі
Трэ' й сумленьне меці!
Ды й дзіця скора памрэ
Столькі бяз яміны
Не памогуць тут яму
Й мягкія пярыны.

І наймае ён тады
Бабу-лапатуху,
Тая прэць дзіця ў прыют
Колькі мае духу.
Але матцы не вязло:
Прышлі с пастарунку
І другога не знашла
Бедная ратунку,



-Колькі, панок, плаціў за гэту палярыну?

-Ня ведаю, бо мой кравец не падаваў яшчэ на мяне ў суд.

А-у.

ооооооооооооооооооооооооооооооо

## У МІРАВОГА.

Судзьдзя:-Ваша імя?
Сьведка: -Чые, мае?
Судзьдзя:-Ну, але, ваша.
Сьведка: -Тодар Хрэн.
Судзьдзя:-Дзе радзіўся?
Сьведка: -Хто, я?
Судзьдзя:-Дык ведама, вы! Я-ж гавару з вамі адным!
Сьведка: -У вёсцы Трыбушкі.
Судзьдзя:-Колькі вам гадоў?
Сьведка: -Каму, мне?
Судзьдзя: (сярдзіта)-Не, мне!
Сьведка: (спакойна)-Я думаю, што вам так, на-вока, гадоў 40-45 будзе, пане судзьдзя.

Л-к.

---

У кнігарні прадаецца популярны Беларускі сьпеўнік цана 50 гр.

## НАША ПОШТА.

Тодар Крачына,-Шесьць №№ пасланa Вам даўно; цяпер пасылаем яшчэ чатыры.

Я. Туровіч,-"Авадня" выслалі-чакаем падпіску.

Дутцы і Бусьцы: нешта аб Вас нічога ня чуваць.

Гармановіцу,-Дзякуем за матар'ял-друкуем. Прысылайце толькі свае творы: выбаркі з іншых журналаў друкаваць ня будзем.

Санчуку,-Дзякуй вялікі за падпісныя грошы. Усе №№ высылаем. Матар'ял падойдзе.

Мастаку Др. Чэзапу ў Глыбокім. Дзевяць №№ "Авадня" Да Вас паслалі. Кажуць, што Вы іх не атрымалі. Адрэсавалі мы на польскую школу ў Глыбокім,-пытайцеся.

Рэдактару Езавітаву. Ліст атрымалі. Абвестку зьмесьцім у № 11 "Авадзень" каштуе на год тры даляры.

Да ўсіх чытачоў мы зьвяртаемся з просьбай заахвочваць сваіх знаёмых да выпіскі "Авадня."

Рэдакцыя.



---

Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі Wilno, Завальная 7, пры кнігарні.

ПАДПІСКА: на 3м. 1 зл. 80 гр.; на паўгода-3 зл. 50 гр.; на год усяго 7зл.
За граніцу на год - тры даляры.

Рэдактар-Выдавец А. Васілеўскі.

Літ. Маца, вуліца Домбраўскага 3, у Вільні.